Прачытай сам і перадай другому.

# Народная Воля

№ 25 (4585)

2 красавіка 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадо».*
***Якуб КОЛАС***

МАЛАНКА!

# Усім! Усім! Усім!

## Мы, супрацоўнікі рэдакцыі незалежнай газеты «Народная Воля», ЗАЯЎЛЯЕМ:

Учора ў першай палове дня нам здавалася, што мы нарэшце прарвалі блакаду і чарговы нумар газеты выйдзе не толькі ў электронным фармаце з размяшчэннем на сайце, але, як і раней, у папяровым варыянце. Падставай для радасці было тое, што рэдакцыя загадзя заключыла дамову з маскоўскім адкрытым акцыянерным таварыствам *«Полиграфический комплекс»*, у адпаведнасці з якой была аператыўна пералічана адпаведная сума грошай на друкаванне сённяшняга нумара газеты.

І вось бліжэй да 14 гадзін як гром сярод яснага неба: *«...только что сделали Вам возврат средств... на очень высоком уровне на нас наехали. Мы не хотим потерять всю типографию, извините»*.

Хто наехаў на маскоўскіх паліграфістаў – можна здагадацца. Не дрэмлюць як беларускія, так і расійскія спецслужбы. У выніку змовы мінскага «Чырвонага дома» з Крамлём, памятаеце, у канцы лістапада з «Народнай Воляй» скасавала дамову друкарня АТ "Прайм Принт Москва". І ўчора прагучала тая ж самая песня…

Калі *«на очень высоком уровне»* ў Белакаменнай прымалася рашэнне аб адмове нам у тыражаванні «Народнай Волі», мы тут, у Мінску, ужо заканчвалі вярстаць першую паласу. І вырашылі не здымаць ліст галоўнага рэдактара, які ён напісаў спецыяльна з той нагоды, што меркавалася выдаць гэты нумар газеты ў ранейшым варыянце – папяровым. Што ж, шкада – не атрымалася. Але мы, упэўнены, блакаду прарвём! Прарвём!

А пакуль, шаноўныя сябры, падпісвайцеся на PDF-версію газеты «Народная Воля» на сайце **belpressa.by** і чытайце нашы матэрыялы на партале **www.nv-online.info**.



ДОГОВОР №5/Т2021
на изготовление печатной продукции
29 марта 2021 г.

1. ПРЕДМЕТ ДОГОВОРА

2. ПОРЯДОК ПЕРЕДАЧИ ЗАКАЗА

АДРЕСА И РЕКВИЗИТЫ СТОРОН:

ИСПОЛНИТЕЛЬ:
ООО «Полиграфический комплекс»
125315, Москва г., Часовая ул, дом № 28, корпус 4, эт 3 ком 42В

ЗАКАЗЧИК:
Издательское частное унитарное предприятие «Народная Воля»
220030, г. Минск, ул. Энгельса, 34а

Ген.Директор: Дрибан Г.В.

Директор (главный редактор): Середич И.П.



ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

# Вяртанне з выраю

За 27 гадоў беларуская ўлада не аднойчы паланіла «Народную Волю». І кожны раз яе вызваленне адбывалася ў няпростых варунках.

Надзвычай цяжкія выпрабаванні давялося пераадольваць нашай дэмакратычнай ластаўцы і ў апошнія шэсць месяцаў. Мінулай восенню яна не па сваёй волі вымушана была адляцець у вырай, і толькі сёння, як вы, шаноўныя чытачы, заўважылі, вярнулася на радзіму ў ранейшым выглядзе. Перад вамі нумар, які нарэшце зноў аддрукаваны ў папяровым варыянце. Тыя нашы сябры, прыхільнікі свабоднага слова, якія доўгі час не мелі магчымасці знаёміцца з матэрыяламі газеты ў электронным фармаце, цяпер з радасцю могуць узяць у рукі «Народную Волю» і насалоджвацца кожным яе радком. Адроджваецца пакрысе Беларусь, адроджваецца наша і ваша «Народная Воля»!

Пакуль у выдавецтве «Беларускі Дом друку» ніяк не могуць «адрамантаваць» станок, на якім некалі тыражаваліся незалежныя газеты, у тым ліку і наша, мы ў чарговы раз знайшлі паліграфічную базу ў той жа Маскве. Заключылі дамову і, калі нішто не перашкодзіць, будзем працягваць друкаваць «Народную Волю» ў Белакаменнай, дастаўляць у Мінск аўтаперавозчыкамі і саматужна, з дапамогай валанцёраў распаўсюджваць па ўсёй краіне.

Няма сэнсу вымалёўваць сёння партрэты тых, хто пасля фальшывых прэзідэнцкіх выбараў абвясціў блакаду «Народнай Волі», як, дарэчы, і некаторым іншым незалежным выданням. Для нас сёння галоўнае – даць народу **ПРАЎДУ**, найактыўнейшым чынам спрыяць усталяванню ў краіне не бутафорскай, а сапраўднай дэмакратыі, умацоўваць добразычлівасць паміж людзьмі розных светапоглядаў. І, вядома ж, усяляк садзейнічаць прагрэсіўнаму рэфармаванню эканомікі, без чаго немагчыма павышэнне дабрабыту народа.

Наладзіць па-новаму выпуск газеты ў папяровым варыянце, тым больш за мяжой, – гэта тое ж самае, што пачынаць справу з нуля і ў найгоршых умовах. Таму добра было б аднавіць дамову з тым жа Беларускім Домам друку, але пакуль дыялог з яго кіраўніцтвам, на жаль, плёну не дае. А тыражаваць газету ў Маскве і дастаўляць яе ў Мінск – і клопатна, і стратна. Не ўпэўнены, што ў хуткім часе ўдасца знайсці ранейшае паразуменне таксама з «Белпоштай» і «Белсаюздрукам». Пакуль што разлік толькі на самаадданасць (лічы, самаахвярнасць) усіх штатных рэдакцыйных супрацоўнікаў і вашу бязмежную дапамогу, паважаныя чытачы і валанцёрская актывісты.

Так, наша дэмакратычная ластаўка – «Народная Воля» – вяртаецца з выраю. І хацелася б, каб яна як мага хутчэй далялела ва ўсе куточкі роднай Беларусі. Будзем заказваць такія тыражы, якія рэальна зможам аператыўна распаўсюджваць. З сённяшняга дня набываць газету раім у рэдакцыйным офісе па адрасе: **Мінск, вуліца Энгельса, 34А**. Тэлефон для даведак – **(8-017) 326-68-71**.

Што і казаць, нялёгкі лёс выпаў на долю «Народнай Волі». Але і на долю ўсіх нас, сучаснікаў, змагароў за шчаслівы заўтрашні дзень роднай Беларусі. Але разам мы не дадзім загінуць свабоднаму слову! Слову **ПРАЎДЫ**! Разам мы пабудуем новую квітнеючую Беларусь!

**Вы – з «Народнай Воляй»,**
**«Народная Воля» – з Вамі!**
Жыве Беларусь!



**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар газеты «Народная Воля».**

**P.S.** Шаноўныя сябры!

Прыхільнікі «Народнай Волі»!

Шкада, вельмі шкада, што мае пранікнёныя словы да Вас не пацвердзіліся ў рэальнасці: злыя сілы ў чарговы раз паўсталі на нашай дарозе, сарвалі друкаваны выпуск «Народнай Волі».

І ўсё ж не станем адчайвацца. Будзе, будзе свята на нашай вуліцы! Знікне дыктатарская цемра, асвеціца наша жыццё сонечнымі праменямі, і прадстануць старонкі «Народнай Волі» ў найпрыгажэйшым паліграфічным афармленні.

А пакуль, даражэнькія, з матэрыяламі кожнага нумара знаёмцеся, заходзячы на наш сайт **www.nv-online.ifo** ў раздзел **«Архіў газеты».**

ПАЛІТКУХНЯ

## Ці адбудзецца «Чарнобыльскі Шлях»?

*Учора ў Мінску створаны аргкамітэт па падрыхтоўцы акцыі «Чарнобыльскі шлях», у які ўвайшлі асноўныя апазіцыйныя палітычныя партыі і рух «За Свабоду».*

Прадстаўнікоў праўладных партый у аргкамітэце няма.

*«У іх смеласці не хопіць падаць заяўку на «Чарнобыльскі шлях»,* – каментуе старшыня Беларускай партыі «Зялёныя» **Дзмітрый Кучук.**

Пра маршрут, які абмяркоўвалі прадстаўнікі аргкамітэта, Дзмітрый Кучук гаворыць так: *«Магу сказаць, што ўсё будзе традыцыйна. Цяпер будзем заключаць дамовы з міліцыяй, хуткай дапамогай, жыллёва-камунальнымі службамі, а пасля гэтага прыкладна 10 красавіка пададзім заяўку на правядзенне «Чарнобыльскага шляху».*

Ці спадзяюцца палітыкі, якія ўзяліся за арганізацыю чарговай масавай вулічнай акцыі, на тое, што гарадскія ўлады задаволяць іх просьбу? Тым больш што акцыю, прымеркаваную да Дня Волі, забаранілі?

*«Заяўку на «Чарнобыльскі шлях» будуць падаваць фізічныя асобы,* – гаворыць Дзмітрый Кучук. – *Улада можа прыводзіць розныя масавыя мерапрыемствы, нягледзячы на напружаную эпідэміялагічную сітуацыю ў краіне, а чаму нам нельга?*

*Мы плануем правесці мерапрыемства ў строгай адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам. Калі акцыю дазволяць, усе ўдзельнікі прыйдуць у масках і будуць прытрымлівацца сацыяльнай дыстанцыі.*

*Мы разумеем, што цяпер у краіне складаная палітычная сітуацыя, таму хочам працаваць у легальным полі. У гэтым годзе – 35-я гадавіна аварыі на ЧАЭС, дата даволі сур'ёзная. Спадзяюся, Мінгарвыканкам нам не адмовіць».*

**Марына КОКТЫШ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Пракурор запрасіў 3 гады калоніі для брэсцкіх блогераў Сяргея Пятрухіна і Аляксандра Кабанава

*У судзе Кастрычніцкага раёна Магілёва дзяржабвінаваўца запрасіў 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму для блогераў з Брэста Сяргея Пятрухіна і Аляксандра Кабанава.*

Паводле версіі следства, брэстчане атрымлівалі грошы ад Сяргея Ціханоўскага і знаходзіліся ў змове з ім. У абвінавачванні ўказана, што абвінавачаныя «стварылі і адміністравалі сістэму распаўсюджвання інфармацыі, якая ўтрымоўвала лжывую ацэнку нелегітымнасці прадстаўнікоў улады».

Па версіі абвінавачвання, берасцейцы стварылі ютуб- і тэлеграм-каналы, у тым ліку каналы «Краіна для жыцця» і «Народны рэпарцёр». У іх блогеры публікавалі матэрыялы, якія змяшчаюць заклікі груба парушаць грамадскі парадак.



Акрамя гэтага, блогерам інкрымінуюць абразу супрацоўніка магілёўскага АМАП Віталя Аўтушэнкі.

Трэці эпізод, па якім абвінавачваюць толькі Сяргея Пятрухіна, звязаны з падзеямі 2018 года. Як сцвярджае абвінавачванне, у адзін з дзён з 13 па 19 чэрвеня таго года блогер апублікаваў на старонцы "ВКонтакте" відэа «Судны дзень або «бенефіс» Лешчанкі». У каментарыі да запісу ўтрымлівалася абраза суддзі.

Суд над блогерамі пачаўся ў Магілёве 11 лютага. Тады іх выдалілі з працэсу, справа разглядаецца без іх прысутнасці. 11 сакавіка стала вядома, што Сяргея Пятрухіна змясцілі ў карцар пасля таго, як ён парэзаў сабе вены.

СІТУАЦЫЯ

## Чаму адвакат адмовілася абараняць Леаніда Судаленку?

*Следства па крымінальнай справе, узбуджанай у дачыненні да гомельскага праваабаронцы, працягнута да 18 мая.*

Нагадаем, што **Леанід Судаленка** быў затрыманы 18 студзеня па дарозе ў офіс. Яго адвезлі на допыт у Следчы камітэт, а затым адправілі ў СІЗА.

За два тыдні да затрымання Судаленкі ў Грамадска-палітычным цэнтры прайшоўператрус, падчас якога былі выняты дакументы, што тычацца праваабарончай дзейнасці.

Леаніду Судаленку было прад'яўлена абвінавачванне па **чч.1 і 2 арт.342 Крымінальнага кодэкса** (фінансаванне і арганізацыя дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак).

Праваабаронцы зараз знаходзіцца ў СІЗА і двойчы абскарджваў абраную меру стрымання, аднак яму адмовілі на падставе таго, што ён нібыта можа збегчы ці перашкодзіць следству.

Таксама стала вядома, што ў Леаніда Судаленкі змяніўся адвакат. Першы адвакат адмовілася далей займацца яго справай без тлумачэння прычын.

**Віктар ШПАК.**

SOS!

## Масавыя рэпрэсіі працягваюцца

На сёння праваабаронцам вядомы 1002 фігуранты крымінальных спраў палітычнага характару, якія знаходзяцца пад следствам або ўжо асуджаны.

325 з іх праваабарончай супольнасцю прызнаны палітвязнямі.

У сакавіку былы старшыня Следчага камітэта **Іван Наскевіч** паведаміў, што са жніўня 2020 года заведзена 2407 спраў "экстрэмісцкай накіраванасці".

За кратамі застаюцца 12 журналістаў, некаторыя з іх – лаўрэаты нацыянальных і міжнародных журналісцкіх прэмій.

Усяго па стане на 28 сакавіка вядома пра больш як 34.000 палітычна матываваных затрыманняў. Найбольш затрыманняў было 9–12 жніўня, у кастрычніку і лістападзе; затрыманні працягваюцца да гэтага часу. У лютым затрымалі не менш за 511 чалавек. Па 245 чалавек было затрымана 25 і 27 сакавіка.

Паводле падлікаў супольнасці "Сумленныя людзі", з універсітэтаў па палітычных матывах адлічаны 243 студэнты, звольнены 31 выкладчык, паведамляе *tut.by.*

Гэта самыя масавыя палітычныя рэпрэсіі ў Еўропе за апошнія 40 гадоў.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
2 КРАСАВІКА 2021 г.

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

# Запретить правду!

Белорусские власти хотят запретить журналистику. Именно так следует расценивать проект новой редакции Закона о СМИ, который сейчас активно обсуждается в интернете.

Пока никто официально не взял на себя ответственность за подготовку этого документа, но особо ретивые чиновники уже отличились. Так, депутат **Геннадий Давыдько** поспешил сообщить, что *«журналистов, освещающих несанкционированные акции, планируют приравнять к участникам этих акций»*. То есть вышли люди на запрещенный властями День Воли, журналист написал об этом – уже участник со всеми вытекающими.

Позже, правда, даже сам Давыдько сообразил, что куда-то не туда его занесло. Потому что и БТ ведь что-то кукарекает про акции протеста. Значит, и Азаренка с Эйсмонтом надо будет отдавать под суд. Тогда Давыдько начал уточнять, что журналист может только стоять в отдалении, наблюдать, фиксировать… Будто сделать хорошо фото, передать эмоцию, услышать мнения можно, просто стоя где-то в отдалении. Но суть даже не в этом. Суть в том, что белорусские власти решили ни много ни мало – запретить журналистику. Приравнять ее к незаконному, криминальному виду деятельности.

Что такое журналистика, учат на первом курсе журфака: это деятельность по сбору, обработке и распространению информации с помощью СМИ. Причем любой общественно-значимой информации, не отнесенной к государственным секретам. Но нынешние белорусские власти решили, что это они должны определять, про что людям знать можно, а про что нельзя; про что журналистам писать можно, а про что нельзя; про что СМИ могут говорить, а про что должны молчать, делая вид, что ничего не происходит.

Про несанкционированные акции протеста или про стихийную забастовку – рассказывать нельзя. Будто и нет в стране протестов или возмущенных рабочих.

Про результаты независимых социологических опросов, относящихся к общественно-политической ситуации в стране, выборам и референдумам, судя по подготовленному проекту закона о СМИ, – сообщать нельзя. Народ должен принимать на веру то, что объявит Центризбирком или заангажированные социологи, нанятые Администрацией президента.

Про коррупцию, получается, тоже нельзя. Потому что ничто так не дискредитирует официальную власть, как коррупция. А дискредитация власти влечет за собой наказание для СМИ.

Про милиционеров-оборотней нельзя – опорочишь милицию, про десятки президентских резиденций нельзя – опорочишь президента, про нищенские пенсии нельзя – опорочишь страну,..

Как легко у них всё это получается: принять закон, предусмотреть наказание – и запретить правду! Лихо так решаются проблемы: никто не написал, не снял, не опубликовал – значит, всё прекрасно и спокойно. Ничему наших чиновников, так называемых депутатов типа Давыдько история не учит. Ничему!

А ведь Беларусь именно та страна, которая не теоретически, а на практике знает, что сокрытие правды, ожидание санкции на обнародование информации чревато смертями людей. Вспомним 1986 год. Чернобыль. Авария на АЭС, про которую молчали все СМИ. Люди вышли на первомайскую демонстрацию, гуляли с детьми, садили огороды и, ни о чем не подозревая, получали смертельно опасные дозы радиации. Последствия этого молчания – свежие могилы, лейкозы, рак щитовидки и до сих пор одна из самых низких в Европе продолжительность жизни.

Мало людей погибло и пострадало? Не научились? Опять решили заставить всех молчать, только чтобы руководству страны спокойнее спалось? И это подается всякими давыдьками как забота о «национальных интересах»?

Господа перепутали кислое с круглым: власть – с государством, себя – с народом, свои интересы – с интересами белорусского общества. Они хотят убить независимую белорусскую журналистику. Они хотят ввести запрет на журналистскую профессию! Они пытаются сделать наказуемой правду. А всё потому, что правда о том, какую страну они построили, – страшная. В этой Беларуси одним позволено всё – даже убивать. Другим не позволено ничего – даже выбрать цвет одежды, цвет штор, цвет стен по своему вкусу. И тех, кто выбирает национальную бело-красно-белую гамму, тянут в суд или в автозак.

Сегодня они пишут сумасшедшие законы, выступают с дикими инициативами только потому, что им страшно посмотреть в глаза этой правде. Им до животного ужаса страшно столкнуться с белорусской действительностью. И они сейчас делают всё возможное и невозможное, чтобы не знать и не слышать, как их бурную деятельность на ниве «государственного строительства» оценивают люди.

СУД!

# У калонію адправілі двух сясцёр

*Іх абвінавацілі ў масавых беспарадках і ўжыванні гвалту да сілавікоў.*

Пяць сведак-амапаўцаў у судзе выступалі пад змененымі імёнамі і ў масках, некаторыя з іх прасілі не караць дзяўчат строга.

Аднак суддзя **Аляксандр Воўк** палічыў віну **Анастасіі** і **Вікторыі Міронцавых** доказанай і асудзіў дзяўчат адпаведна на 2 і 2,5 года пазбаўлення волі ва ўмовах агульнага рэжыму.

Абаронца Анастасіі Міронцавай у сваім выступленні адзначыла, што бокам абвінавачання не было прадстаўлена ніводнага доказу, які пацвярджаў бы віну яе падабароннай у здзяйсненні злачынства па ч.1 арт.342 КК. Няма доказаў таго, што хто-небудзь звяртаўся з якімі-небудзь патрабаваннямі да Анастасіі, таксама не даказана, што дзяўчына знаходзілася на праезнай частцы праспекта Пераможцаў і яе дзеянні пацягнулі парушэнне працы транспарту. Наадварот, ні адзін з дапытаных у судовым пасяджэнні пацярпелых і сведак не пацвердзіў, што падыходзіў з якімі-небудзь патрабаваннямі да Анастасіі Міронцавай або бачыў яе на праезнай частцы. Прадстаўленыя ў судзе відэазапісы таксама не пацвярджаюць вінаватасць дзяўчыны ў здзяйсненні злачынных дзеянняў, паведамляе *TUT.BY*.

Адвакат падкрэсліла, што ў абвінавачанні пазначаны ўсе маршруты грамадскага транспарту, праца якіх была парушана 10 жніўня ў Мінску, і іх указанне ў абвінавачанні не абгрунтавана.




ЗВАНОК З РЭДАКЦЫІ

## Генадзь ФЯДЫНІЧ:

# «Гэты момант наступіць, калі ў халадзільніку мыш павесіцца…»

*У адным з апошніх інтэрв'ю лідар прафсаюза РЭП заявіў: «Я не з'яўляюся прыхільнікам таго, каб кідацца ў крайнасці, але тым больш не ўспрымаю метады, якія ўлада выкарыстоўвае супраць грамадзянскай супольнасці. Сітуацыя ў Беларусі цалкам непрадказальная.*

*…Наступіць момант – і ўжо не спатрэбіцца кіраваць працоўнымі пры дапамозе тэлеграм-каналаў, таму што іх ужо ніхто не спыніць, бо людзям проста немагчыма будзе ўтрымліваць сем'і. Рабочыя тады масава паднімуцца і будуць самі змагацца за свае правы. Гэта ўлада павінна разумець».*

Я вырашыў патэлефанаваць прафсаюзнаму актывісту і ўдакладніць: ***«Калі, на вашу думку, усё-такі наступіць гэты момант? Праз месяц, год ці праз пяць гадоў?»***

– Мяркую, што ён наступіць на працягу гэтага года ці некалькі пазней, – прагназуе **Генадзь Фядыніч**. – Таму што эканоміка падае, і ніякіх падстаў для таго, каб яна паднялася з калень, няма. Больш за тое, мы бачым, колькі ў нас знешніх даўгоў, і іх трэба аддаваць. Прадпрыемствы закрэдытаваны, таму не выключана, што заробкі пачнуць выдаваць нясвоечасова. А многія людзі, на жаль, у нас жывуць ад заробку да заробку.

**– Краіна не першы раз перажывае складаныя эканамічныя часы. Няўжо вы думаеце, што сітуацыя можа дайсці да крытычнага стану?**

– Згодны, што не першы раз, але ж эканоміка ў заняпадзе. Гэта відавочны факт. З Захаду дапамогі чакаць не даводзіцца, а Расія таксама проста так грошы даваць не збіраецца. Можна, безумоўна, надрукаваць купюры, але ёсць рызыка, што гэта выкліча рэзкае павышэнне цэн і дэвальвацыю. Людзі ўжо бачаць, што ў магазінах пастаянна змяняюцца кошты на прадукты.

**– Але вы зрабілі даволі смелы прагноз і, як мне падаецца, не зусім дакладны…**

– Прагнозы ніколі не бываюць дакладнымі на 100 працэнтаў, але я зыходжу з сітуацыі, калі эканамічны стан на прадпрыемствах значна пагоршыцца. Відавочна, што зробяць усё магчымае, каб рабочыя атрымлівалі заробкі, але бюджэтная падтрымка не можа працягвацца бясконца. Бо варта думаць не толькі пра заробкі, але і пра рэалізацыю прадукцыі, якая павінна быць канкурэнтнай не толькі па кошце, але і па якасці. І вось тут узнікае шмат пытанняў. А значыцца, узровень жыцця працоўных будзе зніжацца.

**– Вы лічыце, гэтага дастаткова, каб народ выйшаў змагацца за свае правы?**

– Я разважаю лагічна. Калі сёння чалавек, скажам, атрымлівае тысячу рублёў у месяц, а заўтра яго заробак зменшыцца да 600–700 рублёў, то людзі адназначна адрэагуюць.

Безумоўна, зараз народ стараюцца максімальна запалохаць, і рэпрэсіі будуць працягвацца. Таму людзі выйдуць толькі ў выпадку, калі ў халадзільніку, як кажуць, мыш павесіцца. Пабачым, як будуць складвацца ўнутраныя і знешнія акалічнасці. Ад гэтага залежыць далейшае развіццё падзей.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

З-ЗА КРАТАЎ

# Марына Адамовіч амаль год не бачыла мужа

*Днямі першы намеснік начальніка Галоўнага следчага ўпраўлення Следчага камітэта **А.Агафонаў** у чарговы раз адмовіў Марыне ў спатканні з мужам **Мікалаем Статкевічам**.*

– За ўвесь той час, што Мікола знаходзіцца за кратамі, ніводную маю просьбу аб спатканні не задаволілі, – *гаворыць **Марына Адамовіч** "Народнай Волі"*. – Я атрымліваю адказ, чакаю тыдзень-паўтара і пішу новую паперу на спатканне. Нават у тых, хто знаходзіцца на строгім рэжыме альбо на пажыццёвым зняволенні ў турме, ёсць спатканні. Кароткатэрміновыя, адно ці два, але яны ёсць для ўсіх катэгорый асуджаных!

А ў выпадку з падследнымі – усё аддадзена на разгляд следчага, які ў нашым выпадку лічыць, што "падставы для дазволу адсутнічаюць".

Мы з Міколам больш за 10 месяцаў не бачыліся…

*Нагадаем, што Міколу Статкевічу працягнулі тэрмін утрымання пад вартай яшчэ на два месяцы, да 29 мая.*

*Не так даўно ён пачаў знаёміцца са сваёй крымінальнай справай.*

**Марына КОКТЫШ.**

СТАЛА ВЯДОМА…

# У Кацярыны Бахвалавай будзе новы адвакат

*Сяргея Зікрацкага днямі пазбавілі ліцэнзіі.*

*А так пакуль нічога новага, акрамя таго, што Кацярыну паставілі на прафілактычны ўлік як асобу, схільную да экстрэмізму.*

– Днямі атрымалі ад яе ліст – вельмі цёплы, аптымістычны, – *распавёў "Народнай Волі"* ***Сяргей Ваганаў***, *дзядуля* ***Каці Андрэевай*** *(сапраўднае прозвішча Бахвалава)*. – Піша, што ўсё нармальна. Мы параўноўвалі, што яна піша нам і мужу, – супадае.

У Жодзіне ў камеры яна з "палітычных" адна, яе суседкі сядзяць у асноўным па эканамічных справах. Але пра побытавыя ўмовы мы даведваліся ад адваката, бо ім забаронена пра гэта пісаць. Нейкія крупінкі інфармацыі мы мелі толькі ад адваката. Мы рыхтавалі цэлы спіс пытанняў, на якія Каця яму адказвала, а потым ён распавядаў нам.

Цяпер чакаем суда – 23 красавіка павінны разглядаць апеляцыйную скаргу. У якім фармаце ён пройдзе, будуць іх з Дашай выклікаць на суд альбо не – пакуль не вядома. Хутчэй за ўсё, суд адбудзецца без дзяўчат. Я ўвогуле зараз стараюся не спадзявацца, каб потым не расчароўвацца, бо гэта разбурае…

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ПАД ПРЭСАМ

# Свабоду Андрэю Пачобуту!

*Камітэт абароны журналістаў патрабуе вызваліць **Андрэя Пачобута** і іншых беларускіх журналістаў.*

– *Беларускія ўлады павінны неадкладна вызваліць Андрэя Пачобута, вызваліць усіх зняволеных журналістаў і спыніць спробы запалохаць прадстаўнікоў прэсы і прымусіць замаўчаць незалежныя галасы ў краіне,* – заявіла міжнародная няўрадавая арганізацыя "Камітэт абароны журналістаў".

25 сакавіка ў кватэры Пачобута прайшоў трохгадзінны ператрус. Канфіскаваны два ноўтбукі, жорсткія дыскі, сем старых тэлефонаў, польскамоўная літаратура, бэйджы з канферэнцый, усе дакументы на польскай мове, у тым ліку дакументы дачкі, і ўзнагароды польскага конкурсу GrandPress.

Пачобут цяпер утрымліваецца ў СІЗА на Валадарскага ў Мінску.

**Галіна РУТ.**

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

# Каранавірус не адступае



Міністэрства аховы здароўя паведаміла ўчора, што за апошнія суткі ў Беларусі зафіксаваны 1236 выпадкаў захворвання на каранавірус.

Днём раней іх было 1213, а з пачатку пандэміі ў Беларусі зарэгістравалі 323.043 чалавекі са станоўчым тэстам на COVID-19. Выздаравелі 313.628 пацыентаў.

За ўвесь час памерлі 2257 чалавек.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
2 КРАСАВІКА 2021 г.

ПАРАЛЛЕЛИ

# Какие цены в Украине и в Беларуси...

*В последнее время многих читателей «Народной Воли» очень интересует, как живется людям в соседних странах. Насколько по экономическим показателям уровень жизни обычного белоруса отличается, например, от того, какой он у граждан соседней Украины?*

Один из самых важных показателей – это, конечно, средняя зарплата по стране. Национальный статистический комитет Беларуси утверждает, что средняя зарплата у нас за январь 2021 года составила 1290 рублей. Государственная служба статистики Украины за этот же период дает цифру 12,337 гривен. Если пересчитать эту цифру по курсу Национального банка Украины на 29 марта 2021 года*, то мы получим 1159 белорусских рублей.

Средняя зарплата в Беларуси оказалась, как видите, выше, чем в Украине, на 131 рубль. Много это или мало? С одной стороны, цифры могут показаться практически одинаковыми. Но, с другой, – фактически на эту сумму можно приобрести все продукты питания, перечисленные в представленной ниже таблице. Только после приобретения подобной корзины продуктов у покупателя в Беларуси от 131 рубля останется 10,89 рубля, а у покупателя в Украине – 1,3 рубля. Согласно данным по среднестатистическим ценам на продукты питания, предоставленным государственными статистическими организациями двух стран, среднестатистический белорус заплатит на 9,59 рубля меньше, чем среднестатистический украинец.

Очень актуально для белорусских автомобилистов сравнить цены на топливо в Беларуси и в Украине. Мы сравнили стоимость топлива на заправках «Белнефтехима», а в Украине взяли среднюю цену на топливо за февраль 2021 года, опубликованную на сайте Государственной службы статистики Украины *(см. табл.)*

Оказалось, что топливо в Украине почти на 40% дороже, чем в Беларуси. Но зато среднестатистическая разовая поездка на общественном транспорте в Украине составляет 0,52 рубля. Это почти на те же 40% дешевле, чем такая же поездка в Беларуси, которая составит 0,71 рубля.

### Цены на продукты питания в Беларуси и Украине

| Наименование продукта | Цена в РБ (в BYN) | Цена в Украине (в BYN) |
|---|---|---|
| Хлеб, изделия булочные (батон) из муки пшеничной высшего сорта, 1 кг | 2,97 | 2,90 |
| Хлеб ржаной, ржано-пшеничный, 1 кг | 1,91 | 2,22 |
| Мука пшеничная, 1 кг | 1,27 | 1,29 |
| Крупа манная, 1 кг | 1,71 | 1,58 |
| Рис, 1 кг | 2,86 | 2,34 |
| Крупа гречневая, 1 кг | 3,40 | 3,60 |
| Крупа пшенная, 1 кг | 1,98 | 1,69 |
| Макаронные изделия, 1 кг | 2,76 | 1,99 |
| Сахар-песок, 1 кг | 1,71 | 2,17 |
| Молоко цельное пастеризованное, 1л | 1,60 | 2,43 |
| Творог жирный, 1 кг | 7,13 | 10,72 |
| Сметана, 1 кг | 5,63 | 6,16 |
| Масло животное, 1 кг | 17,39 | 21,15 |
| Масло растительное, 1л | 4,74 | 4,47 |
| Говядина бескостная, 1 кг | 9,14 | 14,46 |
| Свинина бескостная, 1 кг | 10,49 | 10,83 |
| Сало, 1 кг | 11,97 | 7,75 |
| Куры (цыплята, включая бройлеров), 1 кг | 4,52 | 5,65 |
| Колбаса вареная первого сорта, 1 кг | 7,74 | 9,98 |
| Яйца куриные (за 10 шт.) | 2,57 | 3,03 |
| Рыба мороженая, 1 кг | 9,31 | 7,80 |
| Картофель, 1 кг | 1,00 | 1,11 |
| Морковь, 1 кг | 0,98 | 0,69 |
| Капуста белокочанная, 1 кг | 0,72 | 0,54 |
| Свекла, 1 кг | 0,92 | 0,71 |
| Яблоки, 1 кг | 2,62 | 1,85 |
| Лук репчатый, 1 кг | 1,07 | 0,59 |
| **Итого:** | **120,11** | **129,70** |

**Средняя зарплата и цены на товары в Украине пересчитаны в белорусские рубли по курсу Нацбанка Украины на 29 марта 2021 года, 1 белорусский рубль – 10,6475 гривны.*



Понятно, чтобы ответить на вопрос, где лучше жить – в Украине или в Беларуси, недостаточно сравнения цен на основные продукты или, скажем, на те же бензин или газ. Благосостояние людей зависит от десятков других позиций. И прежде всего – от доходов населения. А они-то у разных категорий граждан – разные. Мне смешно, когда провластная белорусская пресса, говоря об Украине, подбирает только темные краски: мол, смотрите, какая нищета у наших южных соседей. Это далеко не соответствует действительности. Как и в Беларуси, значительная часть украинского населения имеет приличные доходы и не жалуется на жизнь. Проблемы, безусловно, у многих пенсионеров, но такие же они и у пожилых людей нашей страны.

### Цены на автомобильное топливо в Беларуси и Украине

| Вид топлива | Цена в РБ (в BYN) | Цена в Украине (в BYN) |
|---|---|---|
| Бензин АИ-92, 1л | 1,77 | 2,45 |
| Бензин АИ-95, 1л | 1,87 | 2,55 |
| ДТ, 1л | 1,87 | 2,47 |
| Газ, 1л | 0,98 | 1,37 |

Я уже много лет работаю в Киеве. Как собственный корреспондент «Народной Воли» в Украине часто бываю в разъездах по этой дружественной нам стране. И, честно говоря, радуюсь тем положительным переменам, которые происходят в последнее время у наших соседей. Сохраняя что-то от советских времен, они все же больше смотрят в завтрашний день. И активно перенимают хороший опыт цивилизованного Запада. И белорусам, кажется, нужно идти по этому пути.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент**
**«Народной Воли» в Украине.**

СУМНА

# Што сказана ў дакладзе Дзяржпэпартамента ЗША пра Беларусь...

*Дзяржаўны сакратар ЗША **Энтані Блінкен** прэзентаваў Даклад Дзяржаўнага дэпартамента аб становішчы з правамі чалавека ў краінах свету за 2020 год.*

У раздзеле, прысвечаным Беларусі, гаворыцца, што наша краіна – аўтарытарная дзяржава, і пералічваюцца парушэнні правоў чалавека, якія наступнічалі прэзідэнцкім выбарам-2020.

У прыватнасці:

• адвольныя забойствы сіламі бяспекі,
• катаванні ў месцах зняволення,
• выпадкі жорсткага, бесчалавечнага і прыніжальнага абыходжання з боку сілавікоў,
• суровыя і небяспечныя для жыцця турэмныя ўмовы,
• адвольныя арышты і затрыманні,
• палітычна матываваныя зняволенні,
• сур'ёзныя праблемы з незалежнасцю судовай улады,
• умяшанне ў прыватнае жыццё,
• сур'ёзныя абмежаванні свабоды слова, прэсы, інтэрнэту,
• пераслед журналістаў, цэнзура і блакіраванне сайтаў,
• крыміналізацыя крытыкі ўрадавых чыноўнікаў,
• празмерна абмежавальныя законы аб няўрадавых арганізацыях;
• істотнае ўмяшанне ў свабоду мірных сходаў і свабоду асацыяцый, уключаючы крымінальнае пакаранне за заклік да мірнай дэманстрацыі і законы, якія караюць дзейнасць і фінансаванне груп, не ўхваленых уладамі;
• абмежаванне свабоды перамяшчэння;
• пазбаўленне грамадзян магчымасці мірна змяніць уладу шляхам свабодных і сумленных выбараў;
• правядзенне выбараў не ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі;
• сур'ёзная карупцыя;
• адсутнасць расследавання і адказнасці за гвалт у дачыненні да жанчын;
• гандаль людзьмі;
• злачынствы, звязаныя з гвалтам альбо пагрозамі гвалту супраць лесбіянак, геяў, бісексуалаў, трансгендараў ці інтэрсексуалаў;
• значныя абмежаванні свабоды прафсаюзаў.

У дакладзе падкрэсліваецца, што ўлады ўсіх узроўняў звычайна заставаліся беспакаранымі і не прымалі мер па прыцягненні да адказнасці ці пакарання службовых асоб ва ўрадзе або сілах бяспекі, якія парушалі правы чалавека.

НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

# Што адбываецца з беларускай эканомікай?

*Адказвае старшы навуковы супрацоўнік цэнтра BEROC эканаміст **Зміцер Крук**.*



**– Апошнімі днямі гучаць меркаванні, што ўлады ўжо фактычна прынялі рашэнне пайсці на дадатковую грашовую эмісію, то бок пачаць друкаваць грошы. Ці ёсць у вас звесткі пра гэта, ці ёсць нейкія прыкметы, што працэс друкавання грошай ужо пачаўся?**

– Ні пацвердзіць, ні абвергнуць інфармацыю пра грашовую эмісію не магу. Пакуль не будзе афіцыйных дадзеных за новы перыяд – ніхто гэтага дакладна не скажа.

Але дыму без агню найхутчэй не бывае. За апошнія месяцы мы назіраем хранічнае пагаршэнне фінансаў дзяржаўных прадпрыемстваў. І ідэя, што іх трэба падтрымаць з дзяржаўнага бюджэту, пануе ў пэўных калідорах улады недзе з красавіка мінулага года. Але большую частку 2020-га знайсці спосабы вырашыць гэтую праблему было магчыма іншымі інструментамі, без друкавання новых грошай. Часткова за кошт рэзерваў, назапашаных за мінулыя гады, часткова за кошт рэсурсаў банкаў.

А на пачатку гэтага года склалася ўжо іншая сітуацыя. Дзяржпрадпрыемствы па-ранейшаму ў глыбокай яме, патрабуюць усё больш рэсурсаў, а выкарыстоўваць тыя старыя метады, што я пералічваў, ужо немагчыма. Таму я бачу ўзмацненне ціску на Нацбанк з патрабаваннем змякчыць манетарную палітыку. Пакуль, калі я аналізую статыстыку, я не маю падстаў казаць, што Нацбанк здаўся і пачаў друкаваць грошы.

**– Але з вашага аналізу (і меркаванняў іншых незалежных эканамістаў) вынікае, што ў эканамічных улад і выхаду ніякага іншага няма, акрамя таго, каб друкаваць грошы ці браць новыя даўгі. Бо іначай што? Змяншаць заробкі і пенсіі? Не самая спрыяльная сацыяльная і палітычная сітуацыя для гэтага.**

– Сапраўды, трэба разумець, што добрых, цудоўных механізмаў вырашэння праблемы зараз няма. Калі працягваць падтрымліваць усе дзяржаўныя прадпрыемствы, выплачваць там усе заробкі, не скарачаць людзей – тады застаецца толькі тое, што вы сказалі: друкаваць грошы ці браць новыя пазыкі.

Нацбанк кажа, што трэба глядзець на кожнае прадпрыемства і займацца абмежаваннем выдаткаў. Таксама Нацбанк ціасне на банкі, каб тыя менш грошай выдавалі на хатнія гаспадаркі і больш – на карпаратыўны сектар. То бок хоча зняць цяжар з сябе і перакласці на камерцыйныя і дзяржаўныя банкі.

**– Ёсць яшчэ адзін варыянт, які выкарыстоўваюць многія дзяржавы ў крытычныя моманты, – гэта прыватызацыя. Скінуць стратныя прадпрыемствы з дзяржаўнай дапамогі, каб новыя прыватныя ўласнікі, якія асмеляцца іх купіць, неслі гэты цяжар самі. Але мы разумеем, што такі варыянт немагчымы ў Беларусі з палітычных прычын – Лукашэнка пра гэта неаднаразова казаў.**

– Так, найпершая прычына – палітычная, гэта канцэптуальны чыннік, чаму прыватызацыя на дадзены момант немагчыма. Але нават калі пра яго на хвілінку забыцца, то застаюцца яшчэ два тэхнічныя моманты.

Па-першае, гэта не робіцца хутка, у самых удалых выпадках – гэта паўгода. Другое – паводле ацэнак, рынкавы кошт топ-20 беларускіх гігантаў сёння не перавышае 5 мільярдаў долараў. Гэта вельмі мала, гэта велічыня несупастаўная з тым, каб страціць кантроль над дзяржаўным сектарам. То бок прыватызацыя не можа забяспечыць закрыванне дзірак хаця б на некалькі гадоў.

**– Іншы варыянт – браць новыя даўгі. Як паведаміў Павел Латушка, Мінск вырашыў размясціць дзяржаўныя аблігацыі на Маскоўскай біржы (бо на заходніх біржах з палітычных прычын ніхто іх купляць зараз не будзе). Латушка папярэдзіў патэнцыяльных пакупнікоў, што будучая беларуская дэмакратычная ўлада не прызнае тыя даўгі, якія з'явяцца пасля жніўня 2020 года.**

– Калі паглядзець у закон аб бюджэце, можна зрабіць выснову, што дзяржава не настолькі разлічвае на новыя пазыкі ў параўнанні з мінулым годам. Той мільярд, які ўжо атрымалі ад Расіі, і абяцаныя 500 мільёнаў, якія яшчэ дадуць, разглядаюцца як тое, што забяспечыць збалансаванасць плацяжоў па знешнім доўгу на гэты год. З бюджэтнага плана вынікае, што трэба яшчэ 500 мільёнаў – гэта не так шмат.

Галоўная праблема – што на добрых рынкавых умовах здабыць такія грошы будзе амаль немагчыма. Па-другое, дадатковыя 500 мільёнаў – гэта самая мінімальная патрэба. На фоне дэфіцыту бюджэту дадатковыя знешнія пазыкі былі б вельмі патрэбны ўладзе. Дзе іх знайсці? Узнікае ідэя пра расійскі рынак. Ці адаб'юцца на расійскім рынку аблігацый палітычныя рызыкі? Думаю, так, але ў меншым аб'ёме. Грошы можна будзе пазычыць, але пад вельмі вялікія працэнты.

Я амаль упэўнены, што ўсе новыя крэдыты, якія возьме беларуская ўлада, будуць даражэйшыя, чым раней. Што яны палічаць меншым злом (браць пад высокія працэнты ці пацярпець), мне сказаць цяжка.

**– Мне падаецца, калі прыпякае, то ўсе аргументы пра мэтазгоднасць адхіляюцца, будуць браць пад любыя працэнты, паводле прынцыпу «пасля нас хоць патоп».**

– Магчыма. Неэканамічныя меркаванні тут сапраўды будуць на першым месцы. Але не выключана, што выберуць і варыянт 2020 года – пакрысе адусюль скарачаць, не пераступаць фінансавыя чырвоныя лініі ў нейкім адным кірунку.

**– Вы сказалі, што на гэты год бюджэт запланаваны з дэфіцытам. У якіх сферах адбудуцца найбольш прыкметныя скарачэнні выдаткаў, дзе будуць абразаць?**

– Можам бачыць, што скарачаецца ў асноўным кірунак інвестыцыйных, капітальных расходаў, розныя галіновыя праграмы. Бюджэт не прадугледжвае радыкальнага скарачэння выдаткаў, улада хоча скарыстаць усе назапашаныя раней рэзервы, каб пазбегнуць радыкальнага скарачэння расходаў.

На 2021 год асноўная крыніца фінансавання гэтага дэфіцыту – тыя рэзервы, якія былі назапашаны з прафіцытаў мінулых гадоў. Яны будуць выкарыстаны амаль пад нуль. Гэта тая падушка бяспекі, якая была створана за некалькі мінулых гадоў. За гэты год яна будзе выкарыстана амаль уся.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ.**

*(svaboda.org)*

